Гродна
№12 (447),
12 чэрвеня 2016

# Слова Жыцця

www.slowo.grodnensis.by

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЭЎХАРЫСТЫЧНЫ КАНГРЭС АДБЫЎСЯ Ў ГРОДНЕ



У прысутнасці ганаровых гасцей на чале з гродзенскім біскупам вернікі ідуць у працэсіі, праслаўляючы Хрыста

*Мерапрыемства завяршылася 26 мая шматтысячнай працэсіяй вернікаў па вуліцах Гродна. Нацыянальны эўхарыстычны кангрэс, у межах якога адбываліся канферэнцыі, адарацыі, святыя Імшы і канцэрты, стаў агульным выразам падзякі за ўсе ласкі, якія Гродзенская дыяцэзія атрымлівала на працягу 25-ці гадоў свайго існавання.*

• працяг на с. 4

# “НЕ ВЫ МЯНЕ ВЫБРАЛІ, А Я ВЫБРАЎ ВАС...”



Прэзбітэрскае і дыяканскае пасвячэнні – дар Божага Провіду

*Ва ўрачыстасць Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі ў гродзенскай катэдры адбыліся пасвячэнні прэзбітэрату і дыяканату. Касцёл узбагаціўся трыма новымі святарамі і адным дыяканам, выхаванцамі Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі.*

• працяг на с. 7

## Каляндар падзей

*24 чэрвеня*
Урачыстасць Нараджэння св. Яна Хрысціцеля.

*8–9 ліпеня*
Урачыстасці Маці Божай Тракельскай, Каралевы нашых сем'яў. Заахвочваем да ўдзелу ў пешых пілігрымках у санктуарый.

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

*“Голас Евангелля”*
Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.

*“Сімвал веры”*
Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале “Беларусь–4”. Чарговы выпуск – 2 жніўня ў 19.45, паўтор – 3 жніўня ў 9.00.

*Навіны з Ватыкана па-беларуску*
Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку “Eutelsat Hotbird 13” на канале “Radio Vaticana Telepace”. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале “Культура” Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.

## Ружанцовыя інтэнцыі

*Чэрвень*

За моладзь нашай дыяцэзіі.

Аб развіцці моладзевых душпастарстваў у парафіяльных супольнасцях.

Аб плённым перажыванні Сусветных дзён моладзі ў Кракаве і сустрэчы з папам Францішкам.

## Інтэрнэт-апытанне www.grodnensis.by

Ці прымаеце Вы ў гэтым годзе ўдзел у пешых пілігрымках?

- так, як і штогод
- так, упершыню
- так, іду ў некалькіх пілігрымках
- не, баюся цяжкасцей
- не, мне не хапае часу

ВЫКАЖЫСЯ 

“Касцёл з'яўляецца сям'ёй Езуса, на якую Ён вылівае сваю любоў”. Папа Францішак

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**XI НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ**

**Лк 7, 36–50**

Адзін з фарысеяў запрасіў Езуса паесці з ім. (...) І вось, жанчына, якая была грэшніцай у горадзе, даведаўшыся, што Ён узлёг за сталом у доме фарысея, прынесла алебастравы флакон пахучага алею і, стоячы ззаду каля ног Яго, плачучы, пачала абліваць ногі Яго слязьмі і валасамі сваёй галавы выцірала і цалавала ногі Яму, і намашчвала пахучым алеем.

Убачыўшы гэта, фарысей, які запрасіў Яго, сказаў сам сабе: "Калі б Ён быў прарокам, то ведаў бы, хто гэтая жанчына, якая дакранаецца да Яго, што яна грэшніца. І Езус сказаў яму ў адказ: "Сымон, Я хачу нешта сказаць табе". Ён жа кажа: "Скажы, Настаўнік". "У аднаго крэдытора былі два даўжнікі. Адзін вінен быў пяцьсот дынараў, а другі – пяцьдзесят. Паколькі не мелі чым заплаціць, ён дараваў абодвум. Дык хто з іх больш палюбіць яго?".

Сымон адказаў: "Думаю, той, каму больш даравана". Ён сказаў яму: "Ты правільна разважыў". І, павярнуўшыся да жанчыны, сказаў Сымону: "Бачыш гэтую жанчыну? Я прыйшоў у твой дом, і ты не даў Мне вады для ног, а яна слязьмі абліла Мае ногі і выцерла сваімі валасамі. Ты пацалунку Мне не даў, а яна з той хвіліны, калі Я прыйшоў, няспынна цалуе Мне ногі. Ты галавы Мне алеем не намасціў, а яна пахучым алеем намасціла Мне ногі. Дзеля гэтага кажу табе: даруюцца ёй грахі многія за тое, што яна вельмі палюбіла. А каму мала даруецца, той мала любіць". А ёй сказаў: "Даруюцца табе грахі". І тыя, хто сядзеў за сталом разам з Ім, пачалі казаць самі сабе: "Хто Ён такі, што нават грахі даруе?". А Ён сказаў жанчыне: "Вера твая ўратавала цябе, ідзі ў спакоі".

### АТРЫМАЛА БОЛЬШ, ЧЫМ АХВЯРАВАЛА

Бог любіць, калі Яго правакуюць адвагай і жэстам. Прыкладам з'яўляецца жанчына, якую атаясамліваюць з Марыяй Магдаленай. Яна не толькі не пашкадавала каштоўнага алею, але і праігнаравала страхі тыпу "а што людзі скажуць". Узамен яна атрымала дар, які ўразіў і яе, і прысутных. Пана Бога немагчыма абагнаць у шчодрасці.

**XII НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ**

**Лк 9, 18–24**

Калі Езус маліўся ў самоце, вучні далучыліся да Яго. І спытаўся ў іх: "Кім лічыць Мяне народ?". Яны сказалі ў адказ: "Янам Хрысціцелем, іншыя – Іллёю, некаторыя ж кажуць, што адзін з даўніх прарокаў уваскрос". Ён спытаўся ў іх: "А вы кім лічыце Мяне?". І адказаў Пётр: "Месіяй Божым". Але Ён строга загадаў ім нікому не казаць пра гэта, кажучы, што Сын Чалавечы павінен шмат выцерпець, што адцураюцца Яго старэйшыны, першасвятары і кніжнікі, і будзе забіты, і на трэці дзень уваскрэсне. Усім жа сказаў: "Калі хто хоча ісці за Мною, няхай адрачэцца ад самога сябе, штодня бярэ крыж свой і ідзе за Мною. Бо, хто хоча ўратаваць жыццё сваё, загубіць яго; а хто загубіць жыццё сваё дзеля Мяне, той ўратуе яго".

### КРЫЖ – ЗНАК ПЕРАМОГІ

Гэты фрагмент з жыцця Езуса не быў лёгкім як для Яго самога, так і для Яго вучняў. Апосталы павінны былі пачуць пытанне, што датычыла асобы Езуса. Ён павінен быў ім прадказаць сваю блізкую будучыню. Ён не сумняваўся, што гэтыя словы не змесцяцца ў іх розуме. Але ім было ясна прадстаўлена, сведкамі чаго яны стануць. Больш таго, яны пачулі патрабаванне, якое датычылася асабіста іх: пакуты і крыж будуць таксама і іх доляй і прызначэннем. Хутка словы Езуса набудуць драматызм. Падчас Яго Мукі вучні не вытрымаюць выпрабавання і разбягуцца, а Пётр маладушна адрачэцца ад свайго Настаўніка. Ён не зможа прыняць такога развіцця падзей.

Праз тры дні пасля смерці прыйшло ўваскрасенне. Апосталы раней чулі пра яго, але і гэта падзея не змяшчалася ў іх уяўленні. Праз Пасхальныя падзеі Езус пераканаў іх, што гэтыя дзіўныя словы – праўда: трэба аддаць жыццё, каб яго атрымаць. І вучні здалі гэты экзамен.

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*



**СЛОВА РЭДАКТАРА**

*Кс. Павел Салабуда*

# Прыпынак – Езус

*Гледзячы на ўласнае жыццё, мы разумеем, што часам варта зрабіць прыпынак. Забеганыя, занепакоеныя, з запоўненай рознымі праблемамі і спосабамі іх вырашэння галавой, не можам знайсці сабе добрага месца ў гэтым свеце. У дадатку, наракаючы амаль на ўсё і ўсіх, мы тонем ва ўласным жыцці. Як бачна, чалавек у такой гонцы не заўсёды дае сабе рады. Часта не хапае часу нават на сустрэчу з блізкімі, адпачынак і іншыя вельмі важныя справы. А таму кожнаму з нас моцна патрэбны кароткі прыпынак, каб паразмаўляць аб жыцці. Узнікае пытанне: "Толькі з кім?". Найлепш – з Богам. Паспрабуйма!*

Такім прыпынкам для многіх з нас становіцца Касцёл, сам Пан Езус. Часам можна заўважыць людзей, якія ўваходзяць у касцёл, стараючыся ўсе свае клопаты пакінуць на вуліцы. А ў святыні ў супакоі, можа, нават з заплюшчанымі вачыма, укленчыўшы, яны разважаюць з Богам. Гэты малітоўны час становіцца пэўным "бальзамам" для жыцця. Такая асоба ўсё ахвяруе Богу, пачынае па-іншаму думаць. У выніку, абдуманае дзеянне прыносіць шмат задавальнення і радасці. У такі момант чалавек адчувае вялікую любоў Стварыцеля, становіцца сведкам таго, што можна жыць інакш, лепш, разам з Богам.

Лета дае нам мноства магчымасцей. Акрамя адпачынкаў, водпускаў і паездак, гэта яшчэ такі час, калі мы можам з многіх нагод – між іншым, падчас пілігрымак – зрабіць свой жыццёвы прыпынак і сустрэцца з Хрыстом. Пан Езус так нас палюбіў, што, дзякуючы Яму, мы можам мець вечнае жыццё. Гэта самае вялікае праяўленне любові Бога да чалавека. Варта задумацца, таму што гэта можа быць менавіта наш прыпынак на шляху зямнога пілігрымавання да Езуса.

Святы Альфонс у адным са сваіх твораў піша пра т. зв. "праграму духоўнага жыцця", узгадваючы, што кожны чалавек можа палюбіць Езуса Хрыста. Гэта дарога дасканалай любові. Ён запэўнівае, што "вялікай памылкай з'яўляюцца выказванні некаторых аб тым, што Бог не хоча, каб усе былі святымі. Бог хоча ўсіх мець святымі, і кожнага ў сваім стане: манаха як манаха, свецкага як свецкага, святара як святара, жанатага як жанатага, прадаўца як прадаўца, салдата як салдата". Наш прыпынак можа называцца па-рознаму: Любоў, Вернасць, Святасць... Усё, што мы сустракаем на сваім шляху – вялікі Божы дар.

**Езус становіцца для нас не толькі дарогай, але і прыпынкам. Пасля таго, як адпачнём з Хрыстом, хадзем далей у сваёй зямной вандроўцы, каб не змарнаваць жыццё.**

ДЭКАНАТ ЛІДА

*Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі*

## Ліда-Маладзёжны

# Касцёл Божай Міласэрнасці



Знешні выгляд святыні



Галоўны алтар святыні

Парафія заснавана ў 1994 г. У маі гэтага ж года вернікі ўсталявалі на ўездзе ў мікраён Маладзёжны крыж і хутка збудавалі часовую капліцу, якая была асвечана 4 снежня. У чэрвені 1995 г. пачалі капаць катлаван пад фундамент будучай святыні ў стылі пост-мадэрнісцкіх трактовак неабарока. Касцёл пад тытулам Божай Міласэрнасці быў узведзены паводле праекта архітэктара Арманда Скаўроньскага і інжынера Гераніма Паўлоўскага з Зялёнай Гуры (Польшча).

Касцёл уяўляе сабой асіметрычную трохнефную базіліку з трансептам (утвораны рознымі ў архітэктурным плане капліцамі), прамавугольнай апсідай з сегментарнай алтарнай сцяной, фланкаванай дзвюма сакрыстыямі. Правы вугал галоўнага фасада святыні адзначаны асіметрычнай велічнай трох'яруснай вежай-званіцай.

Інтэр'ер касцёла падзелены трыма парамі калон на тры нефы і завершаны бетоннымі перакрыццямі (плоскімі над цэнтральным нефам і схільнымі над бакавымі) на такіх жа бэльках. Святыню ўпрыгожваюць пяць алтароў (яшчэ будуюцца). Галоўны алтар – тытульны, Божай Міласэрнасці (двух'ярусная неабарокавая кампазіцыя са штучнага мармуру на аснове спараных калон карынфскага ордэра), левы бакавы – св. Яна Хрысціцеля, правы – Укрыжавання; яшчэ два алтары змешчаны ў капліцах крылаў трансепта: злева – Маці Божай Вострабрамскай, справа – св. Юзафа. Над уваходам знаходзіцца паўкруглы балкон арганных хораў на дзвюх калонах.

Касцёльны ўчастак абнесены металічнай агароджай на цагляных атынкаваных слупках з трохпралётнай неабарокавай уваходнай брамай. У касцёльны комплекс уваходзіць і дзвюхпавярховая каменная плябанія з каплічкай Маці Божай перад ёй. Касцёл збудаваў кс. Станіслаў Пацына разам са сваімі парафіянамі.

15 красавіка 2007 г., у нядзелю Божай Міласэрнасці, ардынарый Гродзенскай дыяцэзіі біскуп Аляксандр Кашкевіч асвяціў касцёл.

## ГРОДЗЕНСКАЯ ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ ЧАКАЕ НОВЫХ КАНДЫДАТАЎ!

**Прыём дакументаў адбываецца ў рэктараце семінарыі кожны дзень** *(акрамя нядзелі і ўрачыстасцей)* **па папярэднім запісе. Адрас Вышэйшай духоўнай семінарыі: Беларусь, г. Гродна, 230025, вул. Парыжскай Камуны, 1; e-mail: wsd@grodnensis.by; тэл.: (8-0152) 77-02-34.**

Семінарыя паведамляе аб тым, што ў гэтым годзе ўступныя экзамены адбудуцца ў два туры: 12 ліпеня і 16 жніўня. Выпрабаванні распачынаюцца раніцай у 10.00. Кандыдатам неабходна паказаць свае веды па асноўных тэмах з катэхізіса і актуальнага жыцця каталіцкага Касцёла.

**Кандыдаты павінны прадставіць наступныя дакументы:**

- заяву з просьбай аб прыняцці ў семінарыю з матывацыяй свайго рашэння
- уласнаручна напісаную аўтабіяграфію
- атэстат аб сярэдняй адукацыі альбо дыплом аб заканчэнні іншай навучальнай установы
- пасведчанне аб сакраманце хросту
- пасведчанне аб сакраманце канфірмацыі
- пасведчанне аб удзеле ў катэхезе
- характарыстыку ад пробашча
- медыцынскую даведку для паступлення ў ВНУ
- пашпарт і яго ксеракопію *(старонкі 31–33)*
- ваенны білет *(прыпісное пасведчанне)* і яго ксеракопію
- 4 фотаздымкі *(3x4 см)*.



*Больш інфармацыі аб жыцці Гродзенскай семінарыі можна знайсці на афіцыйнай старонцы ўстановы ў інтэрнэце па адрасе wsd.grodnensis.by.*

# Сужэнства – святы саюз, дзе не месца забабонам



працяг з папярэдняга нумара

У сувязі з тым, што сужэнства і сям'я з'яўляюцца прадметам асаблівага клопату, Касцёл надае значную ўвагу адпаведнай падрыхтоўцы нарачоных да сакраманту сужэнства. Мэта гэтай падрыхтоўкі – перадача вучэння Касцёла на тэму сужэнства і сям'і, а таксама фармацыя сумленняў да прыняцця будучых роляў жонкі і мужа, маці і бацькі.

У Гродзенскай дыяцэзіі будучыя сужэнцы праходзяць спецыяльныя перадшлюбныя курсы, на якіх закранаецца шырокая тэматыка, звязаная з сужэнскім жыццём: узаемаадносіны паміж мужам і жонкай, вера, сексуальнае жыццё, у тым ліку і метады планавання цяжарнасці. Мэта гэтых курсаў – падрыхтаваць пары да новай ролі, якую ім прыйдзецца выконваць. Будучыя сужэнцы павінны ўсвядоміць абавязкі, якія іх чакаюць, закрануць важныя праблемы, што датычацца ўзаемнага жыцця і сітуацый, з якімі яны могуць сутыкнуцца. Вынікам павінен быць свядомы і адказны падыход да складання прысягі ў касцёле падчас шлюбу і, у далейшым, доўгія гады сумеснага шчаслівага жыцця ў сужэнстве.

**А. Дзмітрый Лабкоў CSsR,** пробашч парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне

*Падрыхтоўка да сакраманту сэжэнства – гэта вельмі важны этап на шляху сужэнскага жыцця. Трэба памятаць, што сакрамант удзяляецца веруючым людзям, якія ўжо прыступілі да святой Камуніі і канфірмацыі, а цяпер у сужэнстве прагнуць далей развівацца ў веры і перадаваць яе сваім дзецям.*

*Вакол шлюбнай цырымоніі існуе мноства розных звычаяў і забабонаў. Маладыя часта больш давяраюць таму, што раіць бабуля, чым таму, што кажа святар падчас падрыхтоўкі да шлюбу. Таму сталая вера і жаданне перажываць сваё сужэнства з Езусам могуць дапамагчы маладым супрацьстаяць той таямнічасці, якая ўтоена ў звычаях і забабонах.*

*Рыхтуючыся да шлюбу, пара вызначаецца з колерам букетаў, ходам урачыстасці, прадумвае трасу даезду ў касцёл, а затым у рэстаран. Варта пры нагодзе агаварыць з блізкімі, што і калі будзе адбывацца, каб не было неспадзеўкі, што пра нешта забыліся або штосьці прапусцілі. І тут, безумоўна, неабходна звярнуць увагу на тое, каб не было няясных жэстаў і таямнічых абрадаў.*

*Важным момантам, на які хацелася б звярнуць увагу, з'яўляецца поўны ўдзел у св. Імшы, падчас якой удзяляецца сакрамант сужэнства. Я не разумею, чаму адбываецца па-іншаму. Часта ў гэты дзень блізкія і сябры ўдзельнічаюць у радасці маладой пары пры вясельным стале, але абмінаюць эўхарыстычны стол. Гасцям пажадана прыняць св. Камунію разам з маладымі, такім чынам утвараючы разам з імі адно праз Хрыста. Св. Камунія і малітва ў інтэнцыі новай сям'і – самы цэнны падарунак. Але для гэтага, безумоўна, неабходна загадзя прыступіць да сакраманту пакаяння і паяднання.*

*Я часта паўтараю, звяртаючыся да гасцей падчас удзялення сакраманту сужэнства, што жаніх і нявеста чакаюць ад іх малітвы за новую сям'ю. Таму, калі яны будуць пазней разглядваць здымкі з вяселля, няхай узгадаюць маладых у сваёй малітве.*

***Кінга Красіцкая***




## Малітва нарачоных

**Святая Марыя, Маці Божая. Мы прыносім Табе наша каханне. Паглядзі на яго сваім ласкавым позіркам і навучы нас прыгожа кахаць. Ты, што ўся з'яўляешся Любоўю, распалі і нашыя сэрцы. Чувай, каб нашае каханне засталося моцным і адданым. Няхай яно яшчэ больш набліжае нас да Бога і робіць адчувальнымі да патрэб каханай асобы і нашых блізкіх. Няхай яно захоўвае нас ад зла і настройвае на працу над сабой. Няхай зробіць нас здольнымі дзяліцца дарам любові з каханым чалавекам. Марыя, не дапусці, каб каханне, якое так цудоўна нас злучыла, калісьці астыла і згасла з-за нашай няўважлівасці. Дапамагай нам знаходзіцца ў Хрысце і чэрпаць нашае каханне з паўнаты Яго сэрца.** *Амэн.*

# Слова для жыцця

### *Папа Францішак*



*"Ламанне хлеба" стала іконай, распазнавальным знакам Хрыста і хрысціян. Давайце ўзгадаем Эмаус – Езуса пазналі "ў ламанні хлеба" (Лк 24, 35). Узгадаем першую супольнасць у Ерузалеме: "Трывалі ў [...] ламанні хлеба" (Дз 2, 42). Эўхарыстыя з самага пачатку становіцца цэнтрам і формай жыцця Касцёла. Але давайце падумаем пра ўсіх святых мужчын і жанчын, вядомых і ананімных, якія аддавалі саміх сябе, уласнае жыццё, каб "накарміць" братоў. Колькі ж маці і колькі бацькаў разам з паўсядзённым хлебам, які ламаўся за хатнім сталом, аддавалі ўласныя сэрцы, каб выхаваць дзяцей, прытым добра выхаваць! Дзе яны знаходзяць сілу, каб рабіць гэта ўсё? Менавіта ў Эўхарыстыі, у моцы любові ўваскрослага Пана, які таксама і сёння ламае для нас хлеб і паўтарае: "Рабіце гэта на Маю памяць".*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас урачыстасці Божага Цела*

### *Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*Успомнім казкі пра пошук скарбаў, якімі мы ў дзяцінстве зачытваліся. Чалавек, які хавае скарб, робіць гэта для таго, каб яго знайшоў не выпадковы чалавек, але толькі той, для каго ён схаваны. Падобна і Бог схаваў скарб вечнага жыцця і паказаў нам, дзе яго знайсці: у Касцёле, дзе ў Эўхарыстыі б'ецца жывое сэрца Езуса.*
*Таму на парозе касцёла Езус пытаецца ў нас: "Чалавек, навошта ты сюды прыйшоў? Проста заскочыў па дарозе? А можа, цябе чакае аперацыя ці экзамен? А можа, толькі гэты святар прамаўляе гаміліі, якія табе падабаюцца?". Калі так, то на гэтым літургічным полі ты не знойдзеш шмат, бо размінаешся з самым каштоўным схаваным у ім скарбам, якім з'яўляецца Эўхарыстыя, у якой нас чакае любоў, што на дрэве крыжа збавіла нас і надалей ратуе. Падчас яе Езус ізноў аддае сваё жыццё за мяне і цябе. Імша – гэта не спектакль, а ахвяра і духоўны пір, у якім трэба ўмець прымаць актыўны ўдзел.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас урачыстасці Божага Цела*

### *Кс. бп Аляксандр Яшэўскі SDB*



*Мы ведаем, што любоў Боскага Збаўцы пакінула нам шмат дароў: хрост, праз які мы абмыліся ад грахоў і сталі дзецьмі Божымі; Евангелле, якое паказвае нам шлях да Нябеснага Валадарства; каштоўныя лекі споведзі, якія з нявольнікаў граху і сатаны робяць нас свабоднымі дзецьмі Божымі; дарагі нашаму сэрцу, святы і чысты Хрыстовы Касцёл, які вядзе нас шляхамі выратавання; любы намі Крыж, на якім Езус, Збаўца свету, адкупіў усіх. Але найкаштоўнейшы і найдаражэйшы за ўсё дар, які Езус пакінуў нам, – Найсвяцейшая Эўхарыстыя.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас урачыстасці Божага Цела*

# Учынак для душы бліжняга. Даравань ахвотна крыўду




Наша жыццё было б мала падобным на хрысціянскае, калі б любая непрыемнасць уводзіла ў роспач, астужала любоў і аддаляла нас ад бліжніх. Празмерная адчувальнасць шкодзіць чалавеку: ён востра рэагуе на прыкрую сітуацыю і праз крыўду завязвае ў сваёй душы нябачны вузялок. Развязаць яго можна толькі прабачэннем.

Ян Златавуст сцвярджае: "Калі не даруеш ворагу, то не яму наносіш шкоду, а самому сабе". Той, хто не прабачае правіннасцей, паўстане асуджаным перад Госпадам, бо ў ім застаецца больш цяжкі грэх. Евангельская ісціна вельмі простая: Бог даруе, калі мы даруем іншым. "Прабачайце, і прабачаць вам" (Лк 6, 37), – гаворыць Збавіцель.

Дараваннем вымяраецца любоў да бліжняга. Калі чалавек адносіцца з любоўю да іншага, то даруе яму. А калі любіць значна больш за іншага чалавека сябе, то нанесеную крыўду можа не дараваць ніколі. Прычынай непрабачэння бліжняму становіцца эгаізм. А яшчэ гардыня, якая пазбаўляе розум яснасці, а сэрца – чысціні і спакою. Варта ў час запытацца: "Што важнейшае – гонар ці мір у душы?".

Часам чалавек "накручвае" сябе і сітуацыю ў сваёй галаве. Песціць крыўду ў сваім сэрцы, знаходзячы ўсё новыя апраўданні сваёй пазіцыі і аргументы, якія падліваюць масла ў агонь. Акт прабачэння запрашае ў далёкую вандроўку: са свету разумовых даследаванняў і эмацыйных перажыванняў у свяшчэннае месца ў сэрцы, дзе жыве Бог, дзе загойваюцца ўсе раны. Гэта Яго любоў робіць нас здольнымі ахвотна дараваць крыўду і адорваць вінаватых прабачэннем.

Дараваць – не значыць не бачыць, але глядзець як бы "зверху": заўважаць ва ўсім дзеянне Бога. Дараваць ахвотна – не значыць з лёгкасцю. Ахвотна – значыць не марудзячы, маючы жаданне штосьці ўчыніць. Корань праблемы знаходзіцца ў нас саміх, у нашай волі.

Непрабачэнне заўсёды будзе рабіць чалавека залежным ад крыўдзіцеля, у тую чаргу як адыход ад яго асобы на даўжэйшы час дае адлегласць і прастору. Яны патрэбныя, і нават абавязковыя, каб дараванне крыўды не стала выключна выбарам волі, але каб яно пераадолела дарогу, часам дастаткова доўгую, якая вядзе ў глыбіню сэрца.

Працэс даравання нанова адкрывае вартасць блізкай асобы, годнасць яе чалавечнасці. Адносіны атрымліваюць глыбейшы сэнс. Падчас такой сустрэчы адбываецца адраджэнне даверу і ўзаемаадносін любові і зычлівасці. Гэты ўчынак павінен быць здзейснены, дзякуючы дабрыні і шчырасці сэрца.

Часта здаецца, што крыўдзіцель павінен прасіць прабачэння. Але Бог патрабуе, каб мы даравалі, нават калі вінаваты не выходзіць насустрач першым. Чакаць, каб крыўдзіцель прасіў прабачэння, няправільна – трэба рабіць гэта загадзя і нават тады, калі з яго боку раскаяння няма. Гэта развівае дух прабачэння, напаўняе жыццё радасцю і спакоем.



Закрываючыся на крыўду, чалавек заслугоўвае адпушчэння ўласных грахоў, выхоўвае ў сабе цярплівасць, пакорнасць, велікадушнасць. З гэтага вынікае павага да бліжняга, паблажлівае стаўленнне да яго недахопаў і слабасцей. Правіны ўспрымаюцца не са злосцю і гневам, а са спачуваннем і жалем. Узнікае жаданне ўмацаваць такога чалавека малітвай.

Прыкладам для нас з'яўляецца сам Хрыстос, які ні на каго не трымаў крыўды. Ён не абражаўся на людзей, якія не заўсёды Яго разумелі і не заўсёды паступалі сумленна ў адносінах да Яго. Любоў Хрыста была мацнейшай за пачуццё крыўды. Ён ведаў, што праўда абароніць сябе сама, а лагоднасць і цярплівасць змогуць пракласці ёй дарогу да самых упартых людскіх сэрцаў. Езус заклікае нас любіць ворагаў і адказваць на зло дабром (параўн. Рым 12, 21). Зло перамагчы злом немагчыма.

***Ангеліна Пакачайла***



**Кс. Андрэй Зайко**

*Калі бліжні цябе нечым пакрыўдзіў, няважна, гэта быў неасцярожны жарт ці неабдуманы ўчынак. Ты адчуваш сябе самотным і прыніжаным, асабліва калі ніхто не падтрымлівае ў такія моманты. Ні ў якім разе не трэба ўпускаць у сэрца злосць ці крыўду. Неабходна сабрацца з сіламі і спакойна прабачыць крыўдзіцелю. Тады ён зразумее, што чалавека не страшаць гадасці з яго боку і перастане дакучаць. Калі ж нехта адмыслова хоча выклікаць рэакцыю, на гэта не варта звяртаць увагу, лепш паказаць сваю абыякавасць. Памятайце аб тым, што шчаслівы чалавек ніколі не пакрыўдзіць бліжняга. Калі ж з душы выходзяць негатыўныя эмоцыі, значыцца, чалавек глыбока няшчасны.*

**5 прычын здзейсніць учынак міласэрнасці:**

1. *Крыўда наносіць шкоду таму, хто трымае яе ў сэрцы.*
2. *Дараванне – элемент зносін, які забяспечвае гармонію і любоў паміж людзьмі.*
3. *Пасля прабачэння на душы становіцца лягчэй.*
4. *Госпад патрабуе, каб пакрыўджаны рабіў першыя крокі да прымірэння.*
5. *Той, хто ўмее прабачаць, рыхтуе сабе мноства ласкаў ад Бога.*

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЭЎХАРЫСТЫЧНЫ КАНГРЭС АДБЫЎСЯ Ў ГРОДНЕ




*◆ Папа Францішак прыняў у Ватыкане футбалістаў "Ювентуса" Турын і АС "Мілан". У кароткай прамове Святы Айцец прызнаўся, што цэніць традыцыі свету футбола. Адзначыў, што поспех каманды з'яўляецца вынікам мноства чалавечых цнот: гармоніі, лаяльнасці, здольнасці да сяброўства і дыялогу. Гэта "духоўныя каштоўнасці, якія становяцца таксама спартыўнымі". Папа выказаў упэўненасць, што сярод іх прысутнічае "смак братэрства, узаемапавага, зразуменне, а таксама прабачэнне". На заканчэнне Пантыфік папрасіў футбалістаў памаліцца ў яго інтэнцыі і ўдзяліў ім бласлаўленне.*

*◆ У Санктуарыі Рэліквій Дрэва Святога Крыжа на Свентым Кшыжы адбылося святкаванне 200-годдзя ўзнікнення Супольнасці Місіянераў Аблатаў Марыі Беззаганнай і 80-годдзя іх прысутнасці на Свентакшыскай зямлі. На юбілейныя ўрачыстасці прыбылі шматлікія пілігрымы і манахі з рэгіёна, краіны і з-за мяжы. Ім папярэднічала ранішняя св. Імша, адпраўленая ў свентакшыскай базіліцы пад кіраўніцтвам сандамерскага біскупа Кшыштафа Ніткевіча. Дарэчы, першым аблатам, які ў 1936 годзе прыбыў у свентакшыскі санктуарый, каб распачаць манаскую паслугу, быў а. Ян Кулявы OMI. Сёння польская правінцыя супольнасці налічвае без малога 500 манахаў.*

*◆ Больш за 60 манахінь з розных кляштараў закрытага тыпу чылійскага горада Санцьяга наведалі жаночую турму. Такім чынам сёстры адзначылі Юбілей манаскага жыцця ў рамках Года міласэрнасці. Для іх гэта стала магчымасцю "адчуць радасць і смутак жанчын, а таксама стаць адной з іх", – распавядае с. Марыя Ружа, кармелітка з кляштара св. Юзафа. Зняволеныя жанчыны ўспрынялі візіт сясцёр як бласлаўленне і падтрымку. "Вельмі добра, што яны прыйшлі памаліцца за нас", – падзялілася адна са зняволеных.*

*◆ Тэкст Бібліі перадалі ў выглядзе піктаграм. Аўтар праекта, які пажадаў застацца невядомым, назваў сваю працу "Пісаннем для мільёнаў". Яно складаецца з 3,3 тысячы старонак, дзе выкарыстана 80 розных эмоцый у выглядзе смайлаў і 200 слоў. Аўтар займаўся перакладам каля паўгода. Як заўважае сам, хацеў "зрабіць тэкст Бібліі падобным на тое, чым людзі дзеляцца ў SMS ці твіты, скараціўшы агульную колькасць сімвалаў".*

*◆ Арганізацыйны камітэт СДМ запусціў "Call-цэнтр". Інфалінія абслугоўваецца на пяці мовах: польскай, англійскай, іспанскай, італьянскай і французскай. Ад панядзелка да пятніцы з 9.00 да 13.00 і з 14.00 да 17.00 па польскім часе пасля набору нумара (+4812) 446-73-33 валанцёры адкажуць на ўсе пытанні, якія датычацца СДМ. Падчас галоўных падзей сустрэчы "Call-цэнтр" будзе працаваць 24 гадзіны ў суткі. Інфалінія скончыць сваю працу 3 жніўня.*

*credo-ua.org; ekai.pl; niedziela.pl*

***Ангеліна Пакачайла***

## 24 МАЯ

## БОЖАЯ МІЛАСЭРНАСЦЬ ШТОДЗЁННА НАНОВА ДАЕ ЭЎХАРЫСТЫЮ

● працяг са с. 1





З канферэнцыяй на тэму "Культ Эўхарыстыі ў кантэксце культу Божай міласэрнасці" выступіў дапаможны біскуп Беластоцкай архідыяцэзіі Генрых Цярэшка. Прадстаўляючы дакладчыка, біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч адзначыў, што Беластоцкая архідыяцэзія мае з Гродзенскай дыяцэзіяй адны карані – Віленскую мітраполію. Іх аб'ядноўвае агульная гісторыя.

У сваім выступленні біскуп Цярэшка разгледзеў значэнне Эўхарыстыі ў жыцці бласлаўлёнага Міхала Сапоцькі – паўсюдна вядомага спаведніка св. Фаустыны Кавальскай, агульнага заступніка беларуска-польскіх зямель. Іерарх засяродзіў увагу на значэнні Найсвяцейшага Сакраманту ў святарскім жыцці. І заахвоціў духавенства па прыкладзе бласлаўлёнага клапаціцца аб росце эўхарыстычнай набожнасці: жыць Найсвяцейшым Сакрамантам, быць яго распарадчыкам, а таксама паглыбляць і перадаваць людзям навуку аб ім.

"Найсвяцейшы Сакрамант аднаўляе, лечыць, аберагае, развівае, умацоўвае, насычае і захоўвае звышнатуральнае жыццё чалавечай душы. У Эўхарыстыі адбываецца найбольш цеснае злучэнне душы з Хрыстом і будуецца еднасць паміж людзьмі. Акрамя таго, Эўхарыстыя дае асаблівы запал, руплівасць, аберагае ад будучых грахоў, памяншае і аслабляе спакусы з боку пажадлівасці і злога духа. Адначасова яна адкрывае на ўплыў дабра і робіць здольнымі да ўчынкаў больш дасканалых, якія заслугоўваюць вечнага жыцця. Яна адорвае ласкай набожнасці, з якой паходзіць шчасце і радасць, унутраны супакой і гатоўнасць да ахвяр і самапрысвячэння для Бога і чалавека. Урэшце, яна нясе абяцанне ўваскрасення", – зачытаў занатаваныя Сапоцькам радкі біскуп Цярэшка.



## СВЕДЧАННЕ СВЯТОЙ ФАУСТЫНЫ – ДАР БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ

Пісьменніца і рэдактар часопіса "Ave Maria" Крыстына Лялько прэзентавала прысутным на кангрэсе "Дзённік" св. Фаустыны Кавальскай у перакладзе на беларускую мову. Зыходным матэрыялам для кнігі паслужыў польскі экземпляр "Дзённіка" 1983 года (другое выданне).

Як успамінае перакладчыца, тэкст быў складаны. Яна пачынала яго чытаць і адкладвала. А аднойчы раніцай прачнулася і цвёрда вырашыла: трэба пачынаць працу. На календары было 16 лістапада – дзень успаміну Маці Божай Вострабрамскай, Маці Міласэрнасці, галоўнай апякункі Гродзенскай дыяцэзіі. "Усе святыя кнігі ідуць з вялікай цяжкасцю, – заўважыла спадарыня Лялько, – але я шмат малілася. Часта звярталася да святой Фаустыны, каб яна дапамагла мне зразумець некаторыя запісы: што яна хацела данесці праз іх. Пераклаўшы тэкст, я перастала баяцца чалавечых слабасцей. Я пачула словы Хрыста «Не бойся! Я побач, Я з табой»".

Як падкрэсліла перакладчыца, гэтая праца была для яе вялікай ласкай ад Бога. "Дзякую Усемагутнаму, што мне, такой слабой, даў спрычыніцца да таго, каб «Дзённік» святой Фаустыны чыталі ў нас, у Беларусі".

Праца над перакладам доўжылася два гады. Сёння "Дзённік" можна знайсці ў духоўных кнігарнях, пры парафіяльных крамах. Кніга невялікага фармату, выдадзена на тонкай біблійнай паперы. Дзякуючы гэтаму, выданне зручна браць з сабой і чытаць у любую свабодную хвіліну.

## 25 МАЯ

## ЭЎХАРЫСТЫЯ – ВЯРШЫНЯ БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ



З дакладам на тэму "Эўхарыстыя і місіі" выступіў біскуп Элцкі Ежы Мазур. Іерарх звярнуў увагу на тое, што Найсвяцейшы Сакрамант жывіць веру, "садзейнічае ўзыходжанню да паўнаты зносін з Богам". А кожная святая Імша, падчас якой адбываецца адарацыя, з'яўляецца доказам таго, што Езус палюбіў чалавека і з гэтай вялікай любові паабяцаў застацца з ім аж да канца свету.

Эўхарыстыя – гэта "школа самаахвярнасці, лагоднасці і вялікай увагі да блізкіх". Ціхая і сціплая прысутнасць Хрыста заахвочвае стаць дарам для іншых па прыкладзе Настаўніка. Яна садзейнічае дараванню, прымірэнню з бліжнімі, разуменню іх абмежаванняў і слабасцей. "Вакол Хрыста ў Эўхарыстыі Касцёл расце як супольнасць, святыня і сям'я Бога: адзіная, святая, саборная і апостальская", – заўважыў біскуп Мазур.

У больш глыбокім разуменні Эўхарыстыя з'яўляецца місіянерскай справай Касцёла, якая палягае на тым, каб "дапамагчы кожнаму вучню сустрэцца з Хрыстом". І датычыць не толькі місіянераў, але і ўсіх вернікаў.

Напрыканцы дакладчык агучыў заклік да актыўнай місійнай дзейнасці, падкрэсліўшы, што ён актуальны і дастасоўны да Паўсюднага Касцёла. "Я хацеў бы пажадаць, каб ваша адданасць місійнай дзейнасці спрыяла аднаўленню Касцёла ў Беларусі", – дадаў біскуп.

## ГРОДЗЕНСКІ КАСЦЁЛ У ПРОМНЯХ БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ





Канферэнцыю на тэму "Адраджэнне каталіцкага Касцёла ў Беларусі як дар Божай міласэрнасці (у кантэксце Гродзенскай дыяцэзіі)" прамовіў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Іерарх нагадаў няпростую гісторыю хрысціянства на беларускіх землях, вылучаючы шлях станаўлення і развіцця Касцёла ў Беларусі, які стаў "надзвычайным праяўленнем Божай міласэрнасці на выпаленай сонцам атэізму і знішчанай духоўным Чарнобылем зямлі".

"Часам здавалася, што Касцёл ужо ніколі не адродзіцца і ніколі на нашай зямлі не будзе абвяшчацца Евангелле, на вежах касцёлаў не зазвоняць званы, а дзеці не пазнаюць вечна жывой Божай праўды. Але тое, што немагчыма для чалавека, становіцца магчымым для Бога… Дзякуючы старэйшаму пакаленню, народнай набожнасці і нешматлікім святарам, якія дваіліся і траіліся, каб толькі абслужыць вернікаў, вера засталася", – падкрэсліў арцыбіскуп Кандрусевіч.

Іерарх узгадаў часы стварэння Гродзенскай дыяцэзіі, калі разам з прадстаўніком Апостальскага Пасада ў Савецкім Саюзе арцыбіскупам Франчэско Каласуонна "крэслілі на карце Беларусі межы дыяцэзій". З таго часу Гродзенскі Касцёл пачаў пісаць сваю гісторыю, якая сёння прыемна здзіўляе.

"Трэба прызнаць, што заходняя частка Беларусі з'яўляецца найбольш каталіцкай у нашай краіне. Гістарычна тут заўсёды было шмат католікаў. Важнае значэнне мае і той факт, што праслед веры на Гродзеншчыне працягваўся не тры, а два пакаленні. Падчас яго тут было найбольш дзеючых касцёлаў і працавала асноўная колькасць святароў. Усё гэта дазволіла нават ва ўмовах праследу веры захаваць яе больш жывой, – заўважыў арцыбіскуп. – Пасля 25-ці гадоў адраджэння і станаўлення Гродзенская дыяцэзія моцна стала на ногі і можа служыць прыкладам для іншых".

## 26 МАЯ

## МІСІЯ КАСЦЁЛА – ДАСТУКАЦЦА ДА СЭРЦА І РОЗУМУ ЧАЛАВЕКА ПРАЗ МІЛАСЭРНАСЦЬ



З канферэнцыяй на тэму "Божая міласэрнасць як заклік для сучаснага свету" выступіў кардынал Зянон Грахалеўскі. У сваім пасланні папскі легат закрануў тры аспекты міласэрнасці: прыроду літасцівага Бога, пастаянную патрэбу чалавека ў Яго міласэрнасці і доўг кожнага дзяліцца міласэрнасцю з бліжнімі.

Кардынал падкрэсліў, што сёння людзі, на жаль, часта не адчуваюць патрэбы ў міласэрнасці. Ёю пагарджаюць, таму што памылкова прымаюць міласэрнасць за слабасць. Між іншым, яе праява ў адносінах да іншых адкрывае на любоў Езуса, якая можа "стварыць чалавека нанова".

Папскі легат звярнуў увагу на фальшывую міласэрнасць або псеўдаміласэрнасць, "калі спрыянне камусьці адарвана ад сапраўднага дабра ці праўды". І заахвоціў вернікаў да сведчання сапраўднай міласэрнасці, якая схіляе да нястомнага навяртання і адрачэння ад граху.

Кардынал заклікаў рэалізоўваць міласэрнасць згодна з указаннямі папы Францішка: услухоўвацца ў Божае слова, разважаць над "скіраванымі да нас словамі", нанова адкрываць для сябе ўчынкі міласэрнасці адносна душы і цела і нястомна карыстаць з сакраманту пакаяння, які дапамагае "рэальна пераканацца ў велічы міласэрнасці". Іерарх пажадаў, каб Маці Хрыста была для ўсіх "натхненнем, апорай і нястомнай дапамогай у перажыванні Божай міласэрнасці".

## СЛОВА ВУЧЫЦЬ, А ПРЫКЛАД ПРЫЦЯГВАЕ

Вынікі трохдзённага форуму падвёў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. У заключнай прамове іерарх падзякаваў усім удзельнікам кангрэсу і заахвоціў прысутных дзяліцца пачутым словам, каб паводле яго змяняць жыццё ў лепшы бок. Ардынарый падкрэсліў, што кожны мае магчымасць пакінуць пасля сябе ў гэтым свеце след. І гэта можна ажыццявіць праз міласэрнасць: працягнуўшы далонь для паяднання, прабачэння, дапамогі. "Таму няхай гэтая наша сустрэча будзе своеасаблівым заахвочваннем, каб мы ішлі і пазначалі сённяшні збунтаваны свет прысутнасцю Божай міласэрнасці", – дадаў напрыканцы біскуп.

# КАРДЫНАЛ ЗЯНОН ГРАХАЛЕЎСКІ: "ЖАДАЮ, КАБ У ГРОДЗЕНСКІМ КАСЦЁЛЕ ЗАСТАЛАСЯ РАДАСЦЬ ВЕРЫ"



***На Нацыянальны эўхарыстычны кангрэс у Гродне прыбыў спецыяльны пасланнік Святога Айца Францішка – кардынал Зянон Грахалеўскі. У інтэрв'ю для газеты "Слова Жыцця" высокапаважаны госць з Ватыкана выказаўся адносна таго, у чым бачыць місію сучаснага святара і на чым, паводле былога прэфекта Кангрэгацыі каталіцкай адукацыі, палягае выхаванне моладзі.***

***– Ваша Эмінэнцыя, Вы не першы раз у Беларусі...***

– Так. Упершыню я быў у Беларусі ў 1994 годзе на ўрачыстасцях, звязаных з 100-й гадавінай з дня нараджэння святога Максімільяна Кольбэ. Святы Айцец выслаў мяне, каб прывезці на гэтае свята яго тэлеграму. Памятаю, што было вельмі шмат радасці. Я бачыў гэта і цешыўся з таго, што такі вялікі чалавек жыў на вашай зямлі.

***– Што хацеў сказаць Папа, прызначаючы Вас спецыяльным пасланнікам на Нацыянальны эўхарыстычны кангрэс?***

– Папа ведаў, што я трохі знаёмы з горадам Гродна, што я ўжо быў тут. Думаю, менавіта гэта і было вырашальным момантам. Пантыфік разумеў, што пасылае кагосьці, хто едзе ў месца, якое ведае. Я заўсёды добра казаў пра ваш горад.

***– У Гродзенскай дыяцэзіі прыпадае прыкладна 3 000 вернікаў на аднаго святара. Як можна ацаніць гэты паказчык у параўнанні з іншымі краінамі свету?***

– Сітуацыю можна лічыць добрай, калі на 1 000 жыхароў ёсць адзін ксёндз. У вас адзін на 3 000. Гэта замала. Але не трагічна, бо ў многіх краінах свету сітуацыя яшчэ горшая. Думаю, што колькасць святароў тут будзе ўзрастаць (*усміхаецца – заўв. аўтара*).

***– Як Вы лічыце, у чым заключаецца місія сучаснага святара?***

– Я лічу, што, у першую чаргу, у сведчанні ўласнай веры. Сёння людзі згубіліся ў веры і павінны ў ёй больш умацоўвацца. Святар, які не жыве верай, не жыве Панам Богам, не абуджае ў чалавеку жадання пайсці за ім. Людзі шукаюць такіх святароў, якія жывуць Евангеллем, любяць Эўхарыстыю, любяць свой народ, стараюцца яму дапамагчы. Такія святары сёння маюць вялікі поспех.

***– Як зараз Касцёл павінен клапаціцца аб маладых людзях, якія з'яўляюцца яго будучыняй?***

– Вялікую рэч здзейсніў папа Ян Павел ІІ, устанаўліваючы Дні моладзі. Ніхто не спадзяваўся, што так шмат маладых людзей будзе прымаць удзел у гэтых сустрэчах. Калі спачатку на іх збіралася каля 700 тысяч чалавек, то пазней і 1 мільён, і 2,5! І хаця Папа ў гэты час ужо быў стары і хворы, моладзь прыходзіла да яго, бо бачыла ў ім сапраўднага сведку веры, сведку Евангелля. І гэта вельмі важна: дзяліцца сваёй верай, сведчыць аб ёй іншым.

***– На што трэба рабіць акцэнт у выхаванні моладзі?***

– Сёння выхаванне моладзі ўскладняецца сродкамі масавай інфармацыі, якія не заўсёды прыхільныя да рэлігійнай фармацыі. Думаю, вельмі важна, каб моладзь старалася ўмацаваць свой духоўны касцяк. Трэба звяртаць увагу на маральную паставу, каб маладыя людзі былі духоўна моцнымі. Таму вялікую ролю адыгрываюць святыя сакраманты.

***– Калі можна так сказаць, міласэрнасць – гэта сэрца хрысціянскай веры. Як бы Вы раілі вернікам перажываць гэты літургічны год?***

– Мы павінны цешыцца з факта, што Пан Бог добры да нас, што Ён міласэрны па сваёй сутнасці. Ён ужывае сваю ўсемагутнасць, каб паказаць людзям міласэрнасць, выходзіць насустрач нашым слабасцям і грахам. Я лічу, што мы павінны цешыцца з Года міласэрнасці і з таго, што Бог нас любіць, што Ён з намі. І, канешне, старацца пераймаць Пана Бога, будучы любоўю для іншых.

***– Ваша Эмінэнцыя, што б Вы пажадалі вернікам з нагоды 25-годдзя заснавання Гродзенскай дыяцэзіі?***

– Жадаю, каб у Гродзенскім Касцёле засталася радасць веры, каб людзі цешыліся з таго, што яны ў Касцёле, і з гонарам вызнавалі сваю веру перад іншымі.

# ГОСЦІ КАНГРЭСУ АБ ВЫКЛІКАХ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ ПЕРАД КАСЦЁЛАМ У БЕЛАРУСІ Ў ГОД МІЛАСЭРНАСЦІ



**Кс. бп Антоній Дзям'янка**

*Гэта, перш за ўсё, выклік праяўлення міласэрнасці адносна тых асоб, якія нас акружаюць: нашых блізкіх, членаў сям'і. Што гэта значыць? Мы павінны іх заўважаць, быць адкрытымі на іх праблемы, ахвотна ім дапамагаць. На першы погляд, гэтае заданне здаецца вельмі простым, але на самой справе гэта не так.*

*Мы таксама павінны быць міласэрнымі і несці цяпло сваіх сэрцаў туды, дзе мы працуем, дзе часта бываем. Быць міласэрнымі ў Год міласэрнасці – гэта таксама выклік для сябе: трэба задумацца над тым, на што мы трацім свой час, як выкарыстоўваем Божыя дары. Мы павінны быць адказнымі за свае дзеянні. І ў гэтым нам дапамагае Эўхарыстыя. Сузіранне Хрыста ў табернаклі дае нам сілы, каб выправіць усё хісткае, каб узрастаць у дабры і выпраменьваць яго на іншых.*



**Кс. бп Алег Буткевіч**

*Найбольшым праяўленнем міласэрнасці з'яўляецца абвяшчэнне Евангелля. Асабліва тут, на нашых землях, гэтая справа вельмі актуальная. Але абвяшчэнне трэба зрабіць сапраўды даступным для людзей, каб яно было эфектыўным: даходзіла да чалавечых сэрцаў і ўплывала на іх жыццё, змяняла яго ў лепшы бок.*

*Вельмі важнае і актуальнае заданне ў сучасным свеце, які не спрыяе развіццю хрысціянскіх каштоўнасцей, – дайсці з Божым словам да людзей, асабліва да моладзі – будучыні не толькі Касцёла, але і ўсяго грамадства. Трэба зрабіць так, каб Божае слова было актуальным, каб людзі адчувалі каштоўнасць Хрыстовай навукі таксама і ў сваім жыцці.*



**Кс. бп Юрый Касабуцкі**

*Галоўным выклікам, які стаіць перад каталіцкім Касцёлам у Беларусі, з'яўляецца абвяшчэнне Божай міласэрнасці і Божага слова ў тых рэаліях, у якіх мы жывём – гэта значыць, у сучасным свеце, які ўсё часцей можна назваць свецкім. Рэлігія губляе ў жыцці чалавека дастойнае месца, становіцца своеасаблівым культурным дадаткам. Таму важную ролю адыгрывае абвяшчэнне Евангелля, каб чалавек мог сустрэцца з Езусам міласэрным.*

*Варта таксама памятаць аб тым, што міласэрнасць мае не толькі вертыкальнае вымярэнне: не толькі Бог прабачае чалавеку. Кожны павінен удзельнічаць у грамадскім жыцці і жыцці Касцёла так, каб заўважыць іншага чалавека, дапамагчы яму быць міласэрным і такім чынам даваць сведчанне Хрысту не толькі словам, але і сваім жыццём. Сёння гэта прыносіць значна большы плён. А ўсе сімпозіумы і кангрэсы, якія Касцёл арганізоўвае ў гэтым годзе, дапамагаюць абагаціцца і даюць новы імпульс для дзейнасці.*



**Кс. бп Аляксандр Яшэўскі SDB**

*Важна адкрыць для саміх сябе, што Пан Бог сапраўды міласэрны. І гэтая міласэрнасць праявілася ўжо ў стварэнні цэлага свету і нас, людзей. Навошта? Каб мы любілі Бога, праслаўлялі, каб служылі Яму так, як Ён служыць нам.*

*Чарговае заданне – усвядоміць, што і нам неабходна міласэрнасць. Аднаўленне вартасці св. Імшы і рэлігійнага выхавання, адкрыццё нанова сакраманту паяднання – усё гэта вельмі важна для каталіцкага Касцёла ў Беларусі. Трэба таксама ўвасабляць у наша штодзённае хрысціянскае жыццё міласэрнасць да іншага чалавека.*

*І яшчэ адзін момант, які з'яўляецца вялікім выклікам – мы павінны быць сапраўднымі, аўтэнтычнымі людзьмі, якія пераканаactive ў сваіх рэлігійных каштоўнасцях, і сведчыць пра іх не толькі ў Касцёле, у хрысціянскай супольнасці, але і ў тым асяроддзі, дзе людзі іх не раздзяляюць.*

# ЗАВЯРШЫЎСЯ КАНГРЭС ВА ЎРАЧЫСТАСЦЬ НАЙСВЯЦЕЙШАГА ЦЕЛА І КРЫВІ ХРЫСТА



*Падчас працэсіі Божага Цела вернікі, адпаведна шматвекавой традыцыі, нясуць рухомыя алтарыкі, касцёльныя харугвы, падушачкі, сцягі, вялікі ружанец*

У гродзенскай катэдры была адпраўлена св. Імша, падчас якой вернікі супольна з біскупамі, святарамі, манаскімі сёстрамі дзякавалі Богу за Гродзенскі Касцёл, за яго адраджэнне, а таксама Божае благаслаўленне і ўсе ласкі, якімі Усемагутны на працягу 25-ці гадоў адорвае дыяцэзіяльную супольнасць. Дзякавалі за ўсіх духоўных і свецкіх асоб, якія сваёй паслугай і працай, ахвярай і малітвай паспрыялі адраджэнню і развіццю Касцёла на Гродзеншчыне. Урачыстае набажэнства ўзначаліў папскі легат кардынал Зянон Грахалеўскі.

На пачатку св. Імшы да прысутных звярнуўся ксёндз біскуп Аляксандр Кашкевіч. Іерарх адзначыў, што нашыя продкі далі прыгожае сведчанне вернасці Хрысту, захавалі і перадалі нам скарб жывой веры, за які мы дзякуем, адзначаючы 25-годдзе лакальнага Касцёла. Таксама біскуп падкрэсліў, што Эўхарыстыя – гэта школа міласэрнасці. Аднак такой жа школай з'яўляецца найноўшая гісторыя нашага Касцёла, а мы ўсе – яе сведкі. "Таму з удзячнасцю і сыноўскім даверам звяртаемся да нашага нябеснага Айца ў малітве і давяраем Яму наш Касцёл. Няхай з адвагай і мужнасцю ён ідзе ў будучыню, абвяшчаючы Хрыста, нашага адзінага Збаўцу", – сказаў біскуп.

Затым кардынал Зянон Грахалеўскі зачытаў ліст да гродзенскага ардынарыя Аляксандра Кашкевіча ад папы Францішка і ўручыў срэбны памятны медаль з нагоды юбілею біскупскага пасвячэння.

"Стала і мудра кіруючы ажно да сённяшняга часу гэтым статкам, Ты паказваў дух адказнасці адносна ўсіх Тваіх вернікаў, асабліва ж адносна святароў і тых, хто рыхтуецца да святарства. Праз выхаваўчую дзейнасць і рознага роду лісты Ты выяўляў мудры клопат аб сапраўдным развіцці жыцця хрысціян і грамадства. Ты спрыяў росту сакраментальнага жыцця Тваіх вернікаў, выяўляў майстэрства ў пастарскіх справах і распараджэнні штодзённымі абавязкамі. У новай дыяцэзіі Ты ўстанавіў розныя структуры: курыю, семінарыю і новыя парафіі. Усім, асабліва бедным і нешчаслівым, нёс духоўнае суцяшэнне", – гаварылася ў лісце папы Францішка.

Пасля ўрачыстай св. Імшы па вуліцах горада прайшла шматтысячная працэсія Божага Цела. Ідучы ад катэдральнага да пабрыгіцкага, пабернардынскага і францішканскага касцёлаў, вернікі спявалі рэлігійныя песні, маліліся і слухалі Евангелле. Такім чынам людзі розных узростаў публічна вызналі сваю веру ў прысутнасць Езуса ў Найсвяцейшым Сакраманце, перапрасілі за грахі і падзякавалі Усявышняму за ўсе атрыманыя ласкі.

***Матэрыялы паласы падрыхтавалі Ангеліна Пакачайла і Кінга Красіцкая***




niedziela
TYGODNIK KATOLICKI

### Паўтары тысячы дзяцей, ахопленых "Усынаўленнем сэрца"

***Мэта ініцыятывы палягае на падтрымцы самых маленькіх у місійных краінах і забеспячэнні іх асноўнымі сродкамі для жыцця.***

*Кс. Міраслаў Буяк, які працуе ў Камеруне, прызнаецца, што акцыя карыстаецца ўсё большай зацікаўленасцю галоўным чынам з-за сваёй канкрэтнасці. "Кожны, хто дапамагае дзіцяці, можа пра яго штосьці даведацца, і таму разумее, што гэта не кіданне грошай у скарбонку, а канкрэтная паслуга", – падкрэслівае місіянер.*

*Праграму ўсынаўлення на адлегласці праводзяць польскія палатыны праз Палатынскі місійны сакратарыят.*




### Святы Айцец: выкараніць усе праявы агрэсіі

***Папа Францішак прыняў на аўдыенцыі ў Ватыкане прадстаўнікоў больш чым з 40-а універсітэтаў свету, якія далучыліся да дзейнасці Папскага фонда "Scholas Occurentes".***

*Сустрэча адбылася з нагоды сусветнага кангрэсу на тэму "Паміж універсітэтам і школай: сцяна ці мост?", які праходзіў у Рыме. Падчас ватыканскага форуму прагучалі кранальныя сведчанні і былі ўручаны прэміі за міратворчую дзейнасць.*

*Пантыфік падкрэсліў, што раздзяленне паміж народамі, сем'ямі, сябрамі нараджае варожасць і нянавісць, у той час як яднанне стварае грамадскае і братэрскае сяброўства, "культуру сустрэчы, якая бароніць нас ад рознага кшталту культуры адчужэння".*




### Біскуп аддаў нырку маладому індусу

***Гэтым незвычайным жэстам ён пастанавіў адзначыць Юбілейны год міласэрнасці.***

*Трыццацігадовы індус Саорай Судакаран – бедны чалавек, які належыць да адной з ніжэйшых каст. Два гады таму яму паставілі дыягназ "ныркавая недастатковасць". Ён страціў працу, прадаў дом, каб аплаціць кошт дыялізаў, якія яму неабходна было прайсці. На бяду адгукнуўся сіра-малабарскі дапаможны біскуп дыяцэзіі Палаі Джэйкаб Мурыкен. Ён не толькі вырашыў аддаць нырку Саораю, але і дапамагчы пакрыць кошт лабараторных аналізаў і лячэння.*

***Кінга Красіцкая***

## Парафіяне павіншавалі кс. Генрыха Яблоньскага з атрыманнем новага тытула

*Урачыстае прывітанне пробашча ў якасці грэміяльнага каноніка Гродзенскага кафедральнага капітула адбылося ў забалацкай парафіі Найсвяцейшай Тройцы 29 мая.*

З нагоды ўрачыстага ўвядзення ў святыню кс. Генрыха, у Забалаць прыбыў кс. біскуп Юзаф Станеўскі. Падчас прывітання іерарх адзначыў, што забалацкая парафія шчодрая на святарскія пакліканні, у тым ліку багатая і на канонікаў. Адсюль паходзяць кс. Ян Кучынскі і кс. Алег Дуль, якія таксама прызначаны канонікамі.

У гаміліі біскуп заахвоціў вернікаў парафіі быць чулымі і міласэрнымі да бліжніх, ісці да збаўлення ў супольнасці, у размове з іншымі людзьмі выкарыстоўваць словы Евангелля, бо гэта "прабачэнне, дабрыня і любоў".



## У Навагрудку прайшоў першы Фестываль сям'і

*Мэтай правядзення мерапрыемства было ўмацаванне статусу сям'і і пашырэнне такіх традыцыйных хрысціянскіх сямейных каштоўнасцей, як адзінства сям'і, сужэнская вернасць і шматдзетнасць.*

Фестываль сям'і ў Навагрудку стаў першым у горадзе адмысловым "парадам сем'яў". Ініцыятарам і арганізатарам мерапрыемства выступіў пробашч мясцовай парафіі св. Міхала Арханёла кс. Юрый Жэгарын разам з парафіянамі.

Мерапрыемства пачалося св. Імшой. Звяртаючыся да сабраных з гаміліяй, кс. Юрый падкрэсліў: "Сям'я з'яўляецца водбліскам адзінага Бога. Яна настолькі падобная да Яго, наколькі адзіная. А каб было адзінства, павінна быць любоў. І менавіта Бог дае нам прыклад гэтай любові".

Пасля Імшы, блаславўлення і сумеснай малітвы сем'і разам з аркестрам вырушылі да гарадскога парку, дзе адбылася асноўная частка святкавання. Падчас забаўляльнага мерапрыемства дзеці атрымалі магчымасць праявіць сваё мастацкія і танцавальныя здольнасці і адпачыць на свежым паветры разам з бацькамі.



## Семінарысты прынялі ўдзел у пасяджэнні грамадскага дыскусійнага клуба "Словадром"

*Навучэнцы Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне на чале з прэфектам кс. Віталіем Сідоркам наведалі абласную бібліятэку імя Ф. Карскага. 31 мая там адбылася сустрэча творчай інтэлігенцыі па пытаннях рэлігіі ў літаратуры і жыцці.*

Шматлікія пісьменнікі, паэты, публіцысты, студэнты, навукоўцы, прадстаўнікі розных рэлігійных плыней – каталіцкай, праваслаўнай, юдэйскай – падчас дыскусій выказваліся адносна шматлікіх пытанняў, звязаных з уплывам хрысціянства на мастацтва, у тым ліку і на літаратуру.

Семінарысты падкрэслілі, што такія сустрэчы не толькі ўзбагачаюць веды, але і фарміруюць асобу святара, які павінен нястомна клапаціцца пра сваё развіццё, быць мудрым, адукаваным і кампетэнтным у шматлікіх пытаннях.



## Валанцёры "Карытас-Гродна" зладзілі свята для дзяцей

*У Міжнародны дзень дзіцяці віншаванні прымалі маленькія выхаванцы дашкольнай групы "Карытас" – дзеці з асаблівасцямі развіцця ў ДУА "Цэнтр развіцця дзіцяці №30 г. Гродна".*

Для хлопчыкаў і дзяўчынак было падрыхтавана мноства сюрпрызаў, сярод якіх цікавая праграма і салодкія падарункі. Асноўная мэта інтэграцыйнага праекта – спрыяць сацыялізацыі дзяцей з асаблівасцямі развіцця і дапамагаць ім у атрыманні як мага больш станоўчых эмоцый ад навакольнага свету.

Арганізатары выказалі спадзяванні, што падобныя мерапрыемствы будуць праводзіцца часцей.



## Душпастарства "OPEN" арганізавала Свята сям'і

*У мерапрыемстве прынялі ўдзел дзеці-інваліды і дзеці з цяжкасцямі ў псіха-фізічным развіцці, якія наведваюць Цэнтры карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі г. Гродна.*

Каля 40-а сямей сабралася ў гарадзенскім маёнтку "Каробчыцы", на тэрыторыі якога праходзілі разнастайныя конкурсы і забавы. Акцыю арганізавала дабрачынная група "Уваскрасенне" пры моладзевым душпастарстве "OPEN". Правядзенне мерапрыемства стала магчымым дзякуючы сродкам, якія былі сабраны падчас адвэнтавай акцыі "Пячэнька за пячэньку". Для кожнай сям'і, у тым ліку для тых, хто не мог прысутнічаць, валанцёры падрыхтавалі сацпакеты.

Свята сям'і каталіцкая моладзь праводзіла ўжо ў 6-ты раз.



## Апошні дзень навучальнага года і 60-годдзе святарства кс. Тадэвуша Вышынскага

*Мінуў напружаны час экзаменацыйнай сесіі, калі семінарысты зрабілі для сябе "рахунак сумлення" адносна таго, як яны выкарысталі дадзены Богам час на здабыванне ведаў і іншых духоўных каштоўнасцей.*

У апошні дзень навучальнага года ў гродзенскай семінарыі адбылася св. Імша ў інтэнцыі юбіляра кс. Тадэвуша Вышынскага, які на працягу многіх гадоў дапамагаў навучэнцам спасцігаць жыццёвую мудрасць і суправаджаў іх на нялёгкай дарозе да святасці. У св. Імшы прынялі ўдзел біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, выкладчыкі і выхаваўцы семінарыі на чале з кс. рэктарам Раманам Рачко, а таксама шматлікія госці з розных куткоў Беларусі і з-за мяжы.

Падчас Эўхарыстыі кандыдаты да атрымання дыяканскага і прэзбітэрскага пасвячэнняў склалі ўрачыстыя дэкларацыі, у якіх пацвердзілі гатоўнасць прыняцца гэтага вялікага дару і задання.



## У Іўі адбыўся дзіцячы велапрабег

*У Дзень абароны дзяцей незвычайную акцыю арганізавалі пробашч мясцовай парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла кс. Ян Гавецкі і супрацоўнікі ДАІ Іўеўскага РАУС Андрэй Ашурак і Аляксандр Шыдлоўскі.*

Каля паўсотні дзяцей рознага ўзросту адгукнуліся на прапанову святара прыняць удзел у велапрабегу да касцёла ў в. Дуды. У канчатковым пункце адбылася св. Імша ў інтэнцыі добрага лета і шчаслівых канікул. Дзеці дзякавалі Маці Божай за паспяховае завяршэнне навучальнага года, прыгадваючы ў сваіх малітвах настаўнікаў і бацькоў.



У межах акцыі супрацоўнікі ДАІ правялі з школьнікамі ўрок па правілах дарожнага руху.

## АНОНСЫ

### РЭКАЛЕКЦЫІ РАСПАЗНАННЯ ПАКЛІКАННЯ

**З 11 па 14 жніўня**
ў будынку Вышэйшай духоўнай семінарыі
ў Гродне адбудуцца духоўныя практыкаванні.
Міністранты і хлопцы ад 14 гадоў запрашаюцца
на перажыванне хвілін цішыні,
а таксама для цікавага разважання над сваім жыццёвым шляхам: "Да чаго мяне кліча Бог?".

**Аб удзеле ў рэкалекцыях неабходна паведаміць да 1 жніўня.**
**Прыезд – 11 жніўня ў 18.00.**

*Кантактныя нумары:*
*кс. Валерый Быкоўскі (8-029) 695-24-69,*
*кс. Андрэй Лішко (8-029) 744-99-61,*
*тэлефон семінарыі (8-0152) 77-02-34.*




### ЗАПРАШАЕМ НА КАНЦЭРТЫ ХОРУ "ASSUMPTA" (ЛАТВІЯ)

**"Assumpta" – змешаны хор Аглонскай базілікі, уладальнік Залатога дыплома ў конкурсе духоўнай музыкі ў Каўнасе.**

**16 чэрвеня, 19.00** – св. Імша і канцэрт у пабернардынскім касцёле;

**17 чэрвеня, 18.00** – св. Імша і канцэрт у касцёле Узвышэння Святога Крыжа ў Галынцы,

**18 чэрвеня, 19.00** – канцэрт у касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Перстуні.

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

***Ці лічыце Вы амаральным сужэнскае сужыццё ў грамадзянскім саюзе без касцёльнага шлюбу?***




*Учарговым апытанні нас цікавіла меркаванне чытачоў адносна жыцця без касцёльнага шлюбу. Большасць рэспандэнтаў не згаджаецца на жыццё толькі ў грамадзянскім саюзе і сцвярджае, што гэта не адпавядае маральным прынцыпам веруючага чалавека. Сёння гэтай тэматыцы трэба прысвячаць больш часу, паколькі жыццё сужэнцаў у касцёльным шлюбе вельмі важнае.*

***Вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



*Кс. Павел Салабуда*

*Вельмі цікавае апытанне. Тэма сужэнскага жыцця заўсёды актуальная. Сёння часта можна пачуць выказванні аб сужэнскім жыцці, бацькоўстве, касцёльным шлюбе і да т. п. Перш за ўсё, кожнаму чалавеку трэба прыгадаць, што Касцёл ніколі не зменяў сваю пазіцыю адносна сужэнскага жыцця. Касцёльны шлюб павінен займаць самае важнае месца. Бог блаславіў мужчыну і жанчыну, блаславіўшы новую сям'ю. Варта сёння памаліцца за маладыя пары, каб яны запрасілі Бога ў сваё жыццё.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

18 чэрвеня 1954 г. – кс. кан. Антоній Курыловіч, *ген. вік., проб. Гродна;*
19 чэрвеня 1942 г. – кс. Пётр Араньскі, *проб. Гальшаны;*
19 чэрвеня 1955 г. – кс. абп Рамуальд Ялбжыкоўскі, *Мітрапаліт Віленскі;*
21 чэрвеня 1941 г. – кс. Станіслаў Сташэліс, *проб. Сурвілішкі;*
22 чэрвеня 1941 г. – кс. Станіслаў Зубковіч, *проб. Трабы;*
25 чэрвеня 1939 г. – кс. Томаш Калінскі, *проб. Міжэрычы.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***

# “Не вы Мяне выбралі, а Я выбраў вас...”



*Хутка крыж святарскай паслугі ляжа на плечы будучых святароў*

● працяг са с. 1



*Кожны з кандыдатаў склаў прысягу вернасці Хрысту і Касцёлу*

На распачацце св. Імшы ксёндз біскуп Аляксандр Кашкевіч даверыў кандыдатаў апецы Марыі – Маці святароў. І заахвоціў вернікаў маліцца праз Яе заступніцтва ў інтэнцыі вернасці тых, хто прымае пасвячэнні.

У гаміліі іерарх падкрэсліў, што святарская паслуга паходзіць ад Хрыста. “Езус – адзіны пасрэднік паміж Богам і людзьмі, які прагне, каб усе былі збаўленыя і дайшлі да пазнання Праўды”. Гэтую вялікую справу Ён даручыў Апосталам і іх пераемнікам, сярод якіх – і сённяшнія кандыдаты. “Не вы Мяне выбралі, а Я вас выбраў, каб вы ішлі і прыносілі плён”, – звярнуўся словамі Езуса да кандыдатаў біскуп. Ардынарый адзначыў, што іх місіяй становіцца ратаванне чалавека ад духоўнай смерці і набліжэнне яму вобраза Бога.

Іерарх звярнуў увагу, што пакліканне нараджаецца ў сям’і, таму заўсёды вельмі важная атмасфера ў “малым касцёле”, бо “тое, што чалавек выносіць з роднага дому, застаецца з ім на ўсё жыццё”. І выказаў падзяку бацькам.

Кандыдаты выразілі гатоўнасць прыняць на сябе новыя абавязкі. Ксёндз рэктар Раман Рачко прызнаў іх годнымі пасвячэння. Затым вернікі адспявалі Літанію да Усіх Святых, падчас якой кандыдаты на знак глыбокай пакоры ляжалі перад алтаром крыжам. Пасля ксёндз біскуп усклаў рукі на кандыдатаў і заклікаў Святога Духа, каб умацаваў іх у паслузе дыяканату і прэзбітэрату.

Напрыканцы новапасвечаныя святары і дыякан выказалі падзяку ўсім тым, хто быў побач з імі на дарозе жыцця. Прагучалі наступныя словы: “Кожны з нас, можа, і трохі нясмела, але з верай, хоча паўтарыць за святым апосталам Паўлам, што «з ласкі Божай я стаў тым, чым ёсць, і ласка Ягоная, дазеная мне, не была дарэмнаю» (1 Кар 15, 10)”.

“Сёння я гляджу на вас з вялікай надзеяй, што вы будзеце вернымі і святымі сынамі нашага Касцёла, непахіснымі і мужнымі сведкамі Хрыста. Нягледзячы на спакусы і цяжкасці, не бойцеся, Езус заўсёды з вамі”, – сказаў на заканчэнне біскуп.

## Прэзбітэрскія і дыяканскія пасвячэнні прынялі:

**Ксёндз Андрэй Скамарошка** *(паходзіць з парафіі Адшукання Святога Крыжа ў Гродне).*
**Ксёндз Павел Скуба** *(паходзіць з парафіі Божага Цела ў Крамяніцы).*
**Ксёндз Ян Варанецкі** *(паходзіць з парафіі Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі ў Мікелеўшчыне).*
**Дыякан Яўген Ціхан** *(паходзіць з парафіі Божай Міласэрнасці ў Лідзе).*

***Ангеліна Пакачайла***

*А. д-р Андрэй Шчупал CSsR*

*Частка II*

# Выкананне прызначанай пакуты і кампенсацыя бліжнім

● працяг з папярэдняга нумара

Агаворваючы тэму кампенсацыі Богу, мы не можам абмінуць праблему рэстытуцыі – выпраўлення матэрыяльнага ці маральнага ўрону, або таксама спакушэння, якое зазналі нашы бліжнія. У выпадку парушэння матэрыяльных даброт, неабходна аддаць скрадзеныя прадметы ўласніку ці яго спадкаемцы разам з часовым прыростам кошту гэтай маёмасці. Калі не ўдаецца знайсці законнага ўладальніка, неабходна згодна з указаннямі спаведніка перадаць увесь кошт скрадзеных рэчаў на дабрачынныя мэты, для бедных або іншым чынам кампенсаваць нанесены ўрон. У выпадку наўмыснага пашкоджання здароўю ці прычынення смерці, трэба ўрэгуляваць урон і матэрыяльныя страты, якія з гэтага вынікаюць, у форме грашовай кампенсацыі. Існуе таксама абавязак бацькі выплачваць аліменты на ўтрыманне і выхаванне няшлюбнага дзіцяці.

Значна складаней выправіць маральную шкоду і спакушэнне. Калі хтосьці мае да бліжніх нянавісць, зайздрасць, гнеў і да т. п., Хрыстос кажа яму: “Пакінь дар свой перад ахвярнікам і ідзі спачатку памірыся з братам сваім” (Мц 5, 24). Справядлівасць патрабуе кампенсацыі за маральную шкоду, якая была нанесена праз агавор, паклёп, знявагу ці сапсаванне. Паклёп адбываецца тады, калі мы дрэнна гаворым пра бліжняга выдуманую, непраўдзівую інфармацыю або падаём неправераныя звесткі аб ім. Пазбаўленне бліжняга добрага імені, гонару ці славы з’яўляецца вялікай шкодай, нанесенай яму і патрабуе рэстытуцыі. Неабходна аправергнуць сказаную няпраўду пра бліжняга і папрасіць у яго прабачэння. Падобна і ў выпадку плётак, гэта значыць, інфармацыі праўдзівай, але такой, якая прыніжае годнасць чалавека. Лепшы спосаб кампенсацыі ў гэтым выпадку – аказаць зняважанай плёткамі асобе асаблівую павагу, папрасіць у яе прабачэння і ў далейшым казаць пра яе добра.

Неабходна таксама выправіць спакушэнне – паданне дрэннага прыкладу праз вульгарныя словы, нясціплыя ўчынкі, п’янства ці іншыя амаральныя паводзіны ў адносінах да бліжніх. Гэта магло стаць прычынай чыйгосьці маральнага ўпадку. Ад спакушэння строга перасцерагае Хрыстос: “А хто спакусіць аднаго з малых гэтых, якія вераць у Мяне, таму лепш павесіць на шыю млынавы камень і патапіць у марской глыбіні. (...) Гора таму чалавеку, праз якога прыходзіць спакуса” (Мц 18, 6). Кожны, хто стаў прычынай спакушэння, павінен яго выправіць: прызнаць сваю віну, папрасіць прабачэння у бліжніх і з гэтага часу падаваць ім добры прыклад. Спакушэнне, здзейсненае публічна, трэба кампенсаваць таксама публічна, нават пры дапамозе сродкаў масавай інфармацыі.

Пакута, прызначаная спаведнікам, цесна звязана з сакрамантам споведзі. Таму толькі яе выкананне з’яўляецца заканчэннем споведзі. Пэнітэнт павінен выканаць пакуту ў акрэслены спаведнікам час. Але калі адкладваць яе на потым, можна ўвогуле забыцца пра гэты абавязак. Таму рэкамендуецца выконваць пакуту як можна хутчэй пасля споведзі, пакуль чалавек яшчэ знаходзіцца ў стане асвячаючай ласкі. Але няма абавязку выканання пакуты перад прыняццем святой Камуніі. Таму можна адразу ж пасля споведзі прыступіць да Камуніі, а затым пачаць выкананне прызначанай пакуты. Гэты абавязак ніколі не знікае, таму ён яшчэ больш абавязвае кожнага як мага хутчэй сумленна яго выканаць. Калі пэнітэнт не ў стане выканаць зададзенай спаведнікам пакуты, ён павінен сказаць пра гэта ксяндзу яшчэ падчас споведзі і папрасіць замяніць пакуту.







## *Когда церковный суд аннулирует брак, оба супруга могут вступить в новый брак или только тот, кто не был виноват в распаде семьи?*

*Церковный суд не «аннулирует» брак в том смысле, что «отменяет его»: он может объявить о несостоятельности заключенного брака, то есть заявить, что этого брака не существовало с самого начала, что таинство брака было недействительным. Поэтому в решении суда нет «виноватых» и «невиновных», даже если брак не существовал «по вине» кого-либо из супругов. Никаких церковных санкций в этом отношении, таких как невозможность заключить действительный брак в Церкви, нет. Однако Церковь может запросить дополнительные гарантии для того, чтобы избежать во второй раз дефекта, который сделал недействительным предыдущее венчание. Например, если прежний брак объявлен недействительным по причине несостоявшегося из-за одной из сторон брачного согласия, которое должно быть взаимным, то при новом венчании от этой стороны может потребоваться присяга перед церковным судьей во избежание еще одной профанации таинства.*

***Ватиканскае радыё***

# “Міласэрнасці час да Бога набліжае нас!”



*Удзельнікі Дыяцэзіяльнага дня дзіцяці праслаўляюць Пана падчас св. Імшы*

**Пад такім дэвізам 1 чэрвеня ў Гродне адбыўся VI Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці. Сустрэча стала для хлопчыкаў і дзяўчынак сапраўдным святам, падчас якога яны маглі ўбачыць, што рэлігія – гэта не толькі св. Імша ў касцёле, але і штосьці фантастычнае, маглі зразумець, што ў клімаце веры таксама можна добра бавіцца.**

Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці па традыцыі адбыўся ў парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі і сабраў больш за 2 100 чалавек. Дзеці разам са сваімі святарамі, манаскімі сёстрамі, катэхетамі і бацькамі прыехалі не толькі з розных куткоў Гродзеншчыны, але і з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.

Урачыстае адкрыццё свята здзейсніў кс. бп Аляксандр Кашкевіч. Іерарх, звяртаючыся да прысутных з прывітальным словам, падкрэсліў, што сёлетні Дзень дзіцяці з’яўляецца таксама нагодай для святкавання юбілею 25-годдзя дыяцэзіі. Біскуп выказаў надзею, што для кожнага хлопчыка і дзяўчынкі свята будзе дасканалай нагодай, каб узмацніць сувязь з Хрыстом, найлепшым Сябрам дзяцей, які ідзе з імі праз усё жыццё.

Затым перад вясёлай і энергічнай публікай выступіў дзіцячы ансамбль “Анёлы” з гродзенскай парафіі Святога Духа на Альшанцы. А пасля распачаўся найважнейшы пункт праграмы Дня дзіцяці – урачыстая св. Імша пад кіраўніцтвам кс. б-па Кашкевіча. Падчас набажэнства з гаміліяй да малых дыяцэзіян звярнуўся кс. Раман Катлімоўскі. Ён заахвоціў дзяцей заўсёды ў сваім жыцці кіравацца любоўю і міласэрнасцю.

“Міласэрнасць – гэта слова, якое можа значыць шмат, а можа і не значыць нічога. Усё залежыць ад таго, ці захочам мы сапраўды яго пачуць, прамовіць, і, што самае важнае, рэалізаваць”, – казаў кс. Раман.

Пасля Імшы надышоў час для супольнай забавы. Клоуны ў каляровых касцюмах і аніматары ў баечных уборах з усмешкамі на тварах забяспечылі выдатную порцыю забавы не толькі хлопчыкам і дзяўчынкам, але і дарослым. Не абышлося без мноства гульняў, конкурсаў, дэманстрацый пажарнікаў, а таксама музычных выступленняў і танцаў.

Напрыканцы мерапрыемства перад аўдыторыяй выступілі дзеці з парафіі Маці Божай Анёльскай у Гродне. Маленькія артысты прадставілі сцэнку – сучасную версію прыпавесці пра міласэрнага айца і марнатраўнага сына. А затым адбыўся канцэрт семінарыйнага гурта “AVE”.



*Дзякуючы намаганням валанцёраў і аніматараў свята для дзяцей прайшло весела і цікава*

Падсумоўваючы сёлетні Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці, кс. Юрый Марціновіч, ініцыятар і арганізатар мерапрыемства, не ўтойваў радасці ад таго, што гэтая сустрэча карыстаецца такой папулярнасцю. “Тут дзеці могуць пазнаёміцца адзін з адным, а таксама ўзбагаціцца духоўна, таму што ў праграме ёсць св. Імша, кароткая катэхеза, тэатральнае прадстаўленне. Таму кожны можа вынесці з гэтай сустрэчы нешта важнае для сябе, што потым спатрэбіцца ў час сталення”, – падкрэсліў кс. Юрый.

***Кінга Красіцкая***




*Хвала Хрысту!*
*Вітаю чытачоў моладзевай рубрыкі "На скрыжаванні". У сённяшнім нумары мы з Вамі паразважаем пра паказчыкі ўзросту, працягласць і шырыню жыцця. Задумаемся над вяршыняй існавання і хуткаплыннасцю часу.*
*Наперад з Богам!*



**Ангеліна Пакачайла**

# Вымераць духоўны ўзрост

**ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ: "Слава юнакоў – сіла іхняя, а ўпрыгожванне старых – сівізна" (Прып 20, 29)**

Кожны ўзрост мае свае перавагі, валодае асаблівым харассвом і прывабнасцю. Такім чынам, любы перыяд у жыцці чалавека аднолькава каштоўны і значны. І маладым, і старэйшым варта адносіцца адзін да аднаго з павагай і разуменнем: хтосьці – мацнейшы, а хтосьці – мудрэйшы.

**ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА: каб людзі пажылога ўзросту, якія апынуліся на перыферыі жыцця і адзінокія, знаходзілі падтрымку і нагоду для сустрэч, у тым ліку ў вялікіх гарадах**

Людзі ў пажылым узросце, як правіла, сыходзяць з працы на заслужаны адпачынак і часта застаюцца сам-насам з сабою. Таму яны як ніколі патрабуюць чуласці, спагадлівасці. Папа Францішак заклікае свет агарнуць пажылых людзей увагай і падтрымаць іх сваёй малітвай.

**ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА: узрост**

Невыпадкова паняцці "ўзрост" і "ўзрастаць" маюць адзін і той жа корань. Адсюль і прамая залежнасць: з гадамі чалавек імкнецца ўгору, на вяршыню. Для гэтага кожны дзень прапануе яму новыя магчымасці.
Лічбавы паказчык нагадвае чалавеку, колькі часу ўжо за плячыма. Але важна іншае – наколькі якасна выкарыстаны адведзены Богам час. Неабходна ўсведамляць: Усявышні адмераў кожнаму з нас працягласць жыцця, але толькі ад нас саміх залежыць яе шырыня.

**МЭТА МЕСЯЦА: вымераць духоўны ўзрост**

Духоўнае жыццё чалавека пачынаецца ад моманту хрышчэння і залежыць ад індывідуальных фактараў рэлігійнага развіцця: прыняцця сакрамантаў, чытання Святога Пісання, малітвы, здзяйснення добрых учынкаў і г. д. Каб вызначыць узрост душы, неабходна адчуць, наколькі яна напоўнена святасцю. Бо вымяраецца духоўны ўзрост не лічбамі, а блізкасцю да Бога.

**СПРАВА МЕСЯЦА: выкарыстаць удабрэнні для духоўнага росту**

Каб заўважна прыбавіць у росце душы, яе неабходна падкарміць. І зрабіць гэта праз удасканаленне таго, што горш за ўсё атрымліваецца. Мінаючы цяжкасці, душа ўзбагачаецца. І чым мацнейшыя перашкоды, тым больш адчуваецца ўнутраны рост.
Варта разумець, што ў духоўным жыцці нельга стаяць на месцы. Таму калі чалавек не ўзрастае, значыцца, ён дэградуе. Спыніцца ў духоўным развіцці немагчыма.

**ПЕСНЯ МЕСЯЦА: "Даражыце часам", Набат**

"З кожным днём мы трошкі старэем...", – пачынае песню выканаўца. І запэўнівае, што чалавек, на жаль, не ўмее шанаваць час. Гады ляцяць неспакойна. Часам іх запаўняюць "гультайства, бестурботнасць і пустая слоўная муць". "Колькі часу канула ў вечнасць, паспрабуй хоць хвіліну вярнуць. (...) Мітусню ты адкінь і сумненні, прысвяці трохі часу Хрысту".

**КНІГА МЕСЯЦА: "Як людзі растуць. Асновы духоўнага росту", Генры Клауд, Джон Таунсэнд**

У кнізе падрабязна апісаны ўсе складнікі і неабходныя ўмовы духоўнага росту. Пералічваюцца канкрэтныя крокі, якія неабходна зрабіць, каб узрастаць духам і пры тым бачыць вынікі гэтага ў паўсядзённым жыцці. Аўтары маюць вялікі вопыт хрысціянскага кансультавання. Кніга напісана простай і зразумелай мовай.

**АСОБА МЕСЯЦА: святы Францішак**



Францішак Карачыёла нарадзіўся ў 1563 годзе ў Віла-Санта-Марыя (Італія). З дзяцінства вылучаўся глыбокай набожнасцю. Ва ўзросце 22-ух гадоў смяртэльна захварэў і склаў абяцанне, што калі перажыве аздараўленне, прысвеціць сябе Богу.
Вывучаў тэалогію ва ўніверсітэце ў Неапалі. У 1581 годзе прыняў святарскае пасвячэнне і адразу ж уступіў у брацтва святароў, мэтай якога была апека над вязнямі і катаржнікамі. Разам з некалькімі падобнымі да яго энтузіястамі накіраваўся ў пустэльню ў Камалдолі. Там узнікла ідэя заснавання новай манаскай сям'і. Папа Сікст V у 1588 годзе зацвердзіў статут, а разам з тым і новы ордэн Канонікаў Рэгулярных Меншых. Першыя яго пляцоўкі ўзніклі ў Італіі і Іспаніі. Францішак памёр 4 чэрвеня 1608 года, пілігрымуючы ў санктуарый Маці Божай у Ларэта. Падчас яго пахавання здарылася цудоўнае ацаленне чалавека ад смяртэльнай хваробы. Францішка беатыфікаваў папа Клямент XIV у 1770 годзе, а кананізаваў папа Пій VII у 1807 годзе.

**Да якіх святых звяртацца з асаблівай просьбай аб заступніцтве ў чэрвені?**

*Св. Францішак (4 чэрвеня), св. Паўліна (6 чэрвеня), св. Максім (8 чэрвеня), св. Дзіяна (10 чэрвеня), св. Антоній (13 чэрвеня), св. Іаланта (15 чэрвеня), св. Альберт (17 чэрвеня), св. Аліцыя (21 чэрвеня), св. Ян (22 чэрвеня), св. Кірыл (27 чэрвеня), свсв. Пётр і Павел (29 чэрвеня).*

*Усе заўвагі і пажаданні дасылайце ў рэдакцыю або на электронны адрас аўтара рубрыкі pokachailo.lina@gmail.com.*

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Антонію Дзям'янку, паважаным Ксяндзам Антонію Абухоўскаму і Антонію Пажэцкаму**

з нагоды Імянін жадаем моцы Святога Духа на кожны дзень жыцця і душпастарскай паслугі, надзейнай апекі святога Заступніка і ўсіх Божых ласкаў. Няхай кожны дар, які Вы атрымліваеце ад Пана, будзе моцнай падтрымкай на жыццёвым шляху.

*Апостальства "Маргарытка", колы Жывога Ружанца, III Ордэн святога Францішка і вернікі з пар. Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рэйшалю**

з нагоды Дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні. Праз нашыя малітвы просім міласэрнага Бога, каб узнагародзіў Вас моцным здароўем, сілай і нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Богу і людзям. Няхай Маці Божая Чанстахоўская нястомна Вамі апекуецца, а Святы Дух адорвае сваімі шчодрымі дарамі. Шчасці Божа!

*Парафіяне з Моцевічаў*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Здзіслаў Пікула!**

З нагоды юбілейнага Дня нараджэння перасылаем Вам сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, няспыннай апекі Маці Божай, стойкасці на святарскім шляху, які вызначыў Вам усемагутны Бог, а таксама людской дабрыні. Мы ўдзячны Пану Богу за тое, што ў нас служыць шчыры ў малітве святар, які вучыць нас быць сапраўднымі хрысціянамі і заўсёды знаходзіць добрае слова для кожнага чалавека. Зачароўвае Ваша глыбокая вера ў Бога, эрудыцыя, інтэлігентнасць і самаадданасць у душпастарскай працы. Вы наш мудры духоўны настаўнік. Дзякуй, што лечыце нашы душы!

*З малітвай і ўдзячнасцю вернікі з пар. Унебаўзяцця НПМ з Дзятлава*

**Паважаны Ксёндз Здзіслаў Пікула!**

У дзень Вашага юбілею праз нашы малітвы мы просім міласэрнага Бога, каб узнагародзіў Вас моцным здароўем, сілай і нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Богу і людзям. Няхай Найсвяцейшая Маці ахінае Вас сваёй мацярынскай любоўю і апекай, асабліва ў цяжкія хвіліны. Дзякуем Вам за ўсё. Жадаем шчасця і толькі радасных хвілін жыцця.

*Былыя парафіяне з Варнянаў*

**Паважанаму Ксяндзу Ігару Анісімаву**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою на кожны дзень жыцця і душпастарскай паслугі, аптымізму, нязгаснага запалу веры, надзеі і любові. Няхай Пан Бог Вас заўсёды благаслаўляе, а Найсвяцейшая Маці і святы Заступнік нястомна Вамі апекуюцца. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Сялявічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Антонію Філіпчыку**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усяго самага найлепшага: моцнага здароўя, штодзённай радасці, душэўнага супакою, рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, а таксама добразычлівых людзей на жыццёвым шляху і поспехаў у душпастарскай працы. Няхай Маці Божая і святы Заступнік апекуюцца Вамі кожны дзень, а ўсемагутны Бог адкрывае свае далоні для Вас і шчодра благаслаўляе.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ваўкавыска*

**Паважаным Ксяндзам Паўлу Скубу, Яну Варанецкаму і Андрэю Скамарошку**

з нагоды святарскіх пасвячэнняў перасылаем самыя сардэчныя пажаданні Божага благаслаўлення ў душпастарскай працы, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, Маці святароў, шчодрых дароў Святога Духа, каб адкрываць людскія сэрцы на Бога, а таксама здароўя, душэўнага супакою, добрых і сардэчных людзей побач.

*Катэдральная моладзь*

**Паважаны Айцец Ян Асіповіч!**

У дзень юбілею жадаем Вам здароўя і сіл, такіх неабходных падчас святарскай паслугі. Няхай і надалей Вашае сэрца будзе адкрытым на патрэбы іншага чалавека, а на твары заўсёды свеціцца ўсмешка. Жадаем Божага благаслаўлення, радасці і шчасця. Будзьце прыгожым прыкладам Хрыстовага святарства!

*Удзячныя вернікі з пар. Унебаўзяцця НПМ, Ліда-Індустрыяльны*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Ігару Анісімаву**

з нагоды Імянін праз заступніцтва святога Антонія выпрошваем моцнага здароўя, радасці, усіх Божых ласкаў, цярплівасці і стойкасці на святарскім шляху. Няхай Маці Божая няспынна Вамі апекуецца, а Святы Дух адорвае шчодрымі дарамі.

*Парафіяне з касц. Беззаганнага Зачацця НПМ, Слонім*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Казлоўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем шчырыя віншаванні і словы падзякі. Дзякуем за дабрыню і зычлівасць, адкрытае сэрца і спагадлівасць, якую Вы дорыце людзям. Няхай Маці Божая, святы Заступнік і Анёл-ахоўнік апекуюцца Вамі і дапамагаюць у выкананні душпастарскай паслугі. Мы ўдзячныя Богу за тое, што паслаў нам Вас.

*З малітвай вернікі з в. Малінавая*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Антонію Пажэцкаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень Вашага жыцця і святарскай паслугі будзе шчаслівы і благаслаўлёны, Бог няхай адорвае доўгім жыццём у здароўі і заўсёды падтрымлівае ў цяжкія моманты, а Маці Божая атуляе сваёй мацярынскай любоўю і апекай. Шчасці Божа!

*Рыцарства Беззаганнай і Адарацыйнае кола*

**Паважанай Сястры Антоніі**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: здароўя, цёплых і сонечных дзён, шчодрых Божых дароў і ласкаў, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, а таксама добразычлівых людзей побач.

*Вернікі з пар. Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы*

**Паважанай Спадарыні Паўловіч Ірыне Георгіеўне**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, апекі Маці Божай і благаслаўлення ад Духа Святога. 100 год!

*З павагай вучні, Лёля*

**Паважанаму Ксяндзу Антонію Ханьку**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем добрага здароўя, нястомнай апекі Маці Божай і святога Заступніка, мноства дароў ад Святога Духа, а таксама добрых і зычлівых людзей побач. Няхай Бог благаслаўляе Вас кожны дзень.

*Хор пабернардынскага касцёла*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Зянону Рамейку**

з нагоды свята Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса, Дня святасці святароў, складаем сардэчныя пажаданні. Жадаем, каб Маці Божая і міласэрны Езус апекаваліся Вамі, а святы Заступнік заўсёды быў побач. Дзякуем за добрае, адкрытае сэрца, чуласць да людзей і мудрыя павучанні. Мы бязмежна ўдзячны Богу за такога пробашча, а Вашым бацькам – за сына святара.

*Парафіяне з Астрыны*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віталію Чургану**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем Божага благаслаўлення. Няхай кожны дзень жыцця будзе напоўнены здароўем, шчасцем і радасцю. Няхай Святы Дух асвячае і вядзе па Божых сцежках, Найсвяцейшая Маці апекуецца Вамі, а праца на ніве Пана прыносіць шчодры плён. Шчасці Божа!

*З малітвай і ўдзячнасцю парафіяне з Юрацішкаў*

**Паважаны Ксёндз Канонік Ян Пецюн!**

З нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем, каб Бог адарыў Вас здароўем, сілай і радасцю. Няхай Езус Хрыстус апекуецца Вамі і прытуляе да свайго сэрца, Дух Святы ўзмацняе душу і цела, Маці Божая, заступніца святароў, ніколі Вас не пакідае, а святы Заступнік нястомна дапамагае ў кожны дзень жыцця. Шчасці Божа!

*Колы Жывога Ружанца з Гродна*

**Шаноўным Сёстрам Аліне Лукоўскай, Леанардзе Ярмусік і Чаславе Крывіцкай**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, сіл, радасці, добразычлівых людзей побач і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Маці Божая няспынна Вамі апекуецца і ахоўвае ў розных жыццёвых сітуацыях, а Божы Провід чувае над Вамі кожны дзень.

*Апостальства "Маргарытка", колы Жывога Ружанца, III Ордэн святога Францішка і вернікі з пар. Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**

з нагоды Дня нараджэння жадаем усіх Божых ласкаў, здароўя, поспехаў, душэўнага супакою, благаслаўлення ў святарскай паслузе і зычлівых людзей побач. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божай радасцю і апекай Найсвяцейшай Маці.

*Былыя парафіяне з Навіянкі*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Рэйшалю**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Жадаем Вам заўсёды быць поўным святла і моцы Духа Святога. Няхай добры Бог адорвае Вас усімі ласкамі на доўгія гады, смутак няхай абмінае, а жыццё плыве ў радасці. Дзякуем за працу, клопат і ўвагу. Жадаем, каб і далей Вы вялі нас да Бога!

*Парафіяне з Жалудка, вул. 70 гадоў Кастрычніка*

Выказваю шчырую падзяку ўсім, хто прычыніўся да арганізацыі Дыяцэзіяльнага дня дзіцяці:
**Біскупу Аляксандру Кашкевічу, Ксяндзу Юрыю Марціновічу, Сястры Марлене і ўсім вернікам,**
якія гасцінна прымалі нас у сваёй парафіі Гродна-Паўднёвы. Мерапрыемства было зладжана на высокім узроўні. Ніхто не застаўся без увагі. Прыемна было бачыць радасць у вачах нашых дзяцей. Гэта для нас самае вялікае шчасце.

*Бабуля Даніка*

**Паважанай Сястры Антоніі Шэйгерэвіч**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай, стойкасцю і нязгасным запалам у адданай паслузе Богу і людзям, Маці Божая Кангрэгацкая атуліць Вас сваім плашчом і цеплынёй свайго сэрца, ласкай і дабрынёй, а Дух Святы асвячае дарогу, па якой мы ідзём разам з Вамі. Дзякуем за добрае сэрца, зычлівасць, малітвы і цярплівасць да нас. Жадаем радасных хвілін у гэты дзень. Няхай міласэрны Бог благаславіць Вашу маму і ўсю сям'ю.

*З удзячнасцю вернікі з Поразава*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com.; **http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2918; тыраж 5100; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная